Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

№50 (610) 15 снежня 2011 года.
Кошт свабодны.



У чаканні Новага года.

**Глыбоцкі раён**

# Высокая планка МКК

■ Чэслаў Якубовіч

Нават і не верыцца адразу, што адзін з буйнейшых у краіне прадпрыемстваў малочнай галіны – Глыбоцкі МКК – ужо юбіляр. Аднак за 40 гадоў плённай дзейнасці камбінат стаў галоўным брэндам раёна, вобласці і ўсёй краіны, уваходзіць у лік ста буйнейшых і самых прыбытковых калектываў Беларусі. Аб гэтым гаварылася днямі ў актавай зале, у якой прайшлі юбілейныя ўрачыстасці з запрашэннем шматлікіх гасцей і сяброў, заслужаных ветэранаў вытворчасці і лепшых работнікаў. Было прыемна ўзгадзаць, што менавіта глыбачане першымі на прасторах СССР у пачатку 70-х мінулага стагоддзя пачалі выпускаць сваю знакамітую згушчонку. Заразгеаграфія паставак гэтай прадукцыі ўключае, акрамя Расіі і Казахстана, шраг постсавецкіх рэспублік. Увогуле, штомесячна на экспарт цяпер адгружаецца звыш 60 % выпускаемай прадукцыі. З'явіліся ў глыбачан спажыўцы прадукцыі ў Панаме, Лівіі, Пакістане, Бельгіі. Тут ужо некалькі гадоў працягваецца абнаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы, на тэхпераўзбраенне было патрачана каля 28 млрд. рублёў. Мясцовую кацельню перавялі на прыродны газ, закупілі шмат транспарту для дастаўкі сыравіны і тэхнікі для сельгасфіліяла "Мнюта", поўнасцю абнавілі сістэму холадазабеспячэння. Завадчане пачалі фасаваць згушчонае малако з цукрам у новую тару – цюбікі. Але наперадзе працаўнікоў камбіната, многіх з якіх адзначылі ўзнагародамі на ўрачыстасцях, чакаюць новыя рубяжы і выпрабаванні. Час патрабуе пастарацца трапіць са сваёй прадукцыяй і ў Еўрасаюз.

**Докшыцкі раён**

# Гінуць людзі ў агні

■ Станіслаў Раманчук

У гэтым годзе доўга не было сапраўдных халадоў з наступленнем каляндарнай зімы, а вось розных трагічных выпадкаў нават прыбавілася. Вось і ў Докшыцкім раёне днямі ў выхадны дзень прагрымеў выбух у адным з жылых дамоў у буйным мястэчку Ваўкалаты. Як высвятляецца, тут адбылася ўцечка "блакітнага паліва" са звычайнага газавага балона. Аднак яго гаспадар, мясцовы пенсіянер, небяспекі не заўважыў і, як звычайна, чыркнуў спічкай. У выніку сіла ўзрыўной хвалі аказалася настолькі моцнай, што абваліўся дах будынка, ён загарэўся. Падраздзяленне райаддзела МНС па трывожным сігнале падаспела на дапамогу хутка і выцягнула пацярпеўшага з-пад завалаў. Яму з апёкамі рук і галавы рознай ступені прыйдзецца прайсці курс лячэння ў бальніцы. А вось дзе зімаваць далей – невядома, бо хата моцна разбурана і непрыгодная для жыцця. Па збегу абставін у той самы нядзельны дзень аналагічны выбух прагучаў на ўсходзе Віцебскай вобласці, у адной з вёсак Дубровенскага раёна. Мясцовы жыхар сталага ўзросту самастойна падключыў новы газавы балон і пры праверцы яго на герметычнасць таксама атрымаў моцныя апекі цела. Але там канцэнтрацыя газу была невялікай і да разбурэнняў будынка справа не дайшла. Адзінае, што пенсіянер атрымаў апёкі цела. Пачасціліся з надыходам халадоў пажары, у прыватнасці, на Пастаўшчыне за пару дзён снежня загінулі ў агні 3 чалавекі, яшчэ адну сям'ю з трох чалавек цудам выратавалі ад гібелі пільныя суседзі.

**Пастаўскі раён**

# Парадавала "блакітная ніва"

■ Кастусь Александровіч

Калі ў вяскоўцаў даўно завяршыліся асноўныя сельгасработы, то ў работнікаў рыбагадоўчых гаспадарак краіны руціна працягвалася да позняй восені. А ў калектыве буйнейшага на Віцебшчыне рыбгаса "Навінкі", што ў Пастаўскім раёне, гэтым абставінам людзі толькі рады. Упершыню ў сваёй гісторыі мясцовыя рыбаводы вырасцілі рэкордны ўраджай і са сваіх сажалак вылавілі 1445 тон рыбы. Даўно такога не было, каб з асобных вадаёмаў атрымалася ў выніку з кожнага гектара аж па 30 і болей цэнтнераў адборнага карпа. У лік таварнай прадукцыі, якая перавысіла 1100 тон, таксама трапілі такія каштоўныя пароды рыб, як амур, таўсталобік і нават афрыканскі сом. За некалькі месяцаў ударнай працы ў асноўным у магазінах вобласці спажыўцам было прададзена 1050 тон рыбы, што на 70 тон болей, чым за ўвесь мінулы год. Акрамя гэтага, навінкаўскія рыбаводы гандлявалі рыбай і на рэспубліканскіх "Дажынках", на шэрагу рыбных кірмашоў у беларускай сталіцы. Адметнасць гэтага рыбгаса ў тым, што да людзей яны едуць з армейскімі палявымі кухнямі на калёсах і частуюць усіх наварыстай смачной юшкай. Дасягнуць такіх высокіх паказчыкаў дапамагла наяўнасць 10 спецыялізаваных машын з жывой рыбай, адкуль і вёўся продаж. Хопіць прадукцыі, каб забяспечыць рыбкай спажыўцоў і перад святамі, на яе зараз вялізны попыт з-за даступных цэн.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 15.12.11 | | | | Пятніца 16.12.11 | | | | Субота 17.12.11 | | | | Нядзеля 18.12.11 | | | | Пнд. 19.12.11 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +5 | +5 | +1 | +1 | +2 | +1 | +1 | +2 | +1 | +3 | +4 | +5 | +4 | +2 | +1 | 0 | 0 | +1 |
| Ціск | 743 | 742 | 744 | 745 | 744 | 739 | 735 | 735 | 734 | 732 | 730 | 730 | 729 | 727 | 729 | 731 | 736 | 740 | 743 |
| Вільготнасць | 94 | 93 | 84 | 93 | 98 | 99 | 96 | 96 | 91 | 92 | 90 | 92 | 94 | 97 | 95 | 93 | 88 | 86 | 83 |
| Вецер м/сек | Ю 7 | Ю-З 6 | Ю-З 4 | Ю 3 | Ю-В 3 | В 3 | З 2 | Ю 4 | Ю 7 | Ю-В 8 | Ю 8 | Ю 7 | Ю-В 6 | Ю 3 | З 4 | З 6 | Ю-З 7 | Ю-З 6 | Ю-З 6 |
| | | 09:28 | 16:40 | | | 09:29 | 16:40 | | | 09:30 | 16:40 | | | 09:31 | 16:40 | | 09:31 | 16:40 | |
| | | 22:27 | 11:57 | | | 23:48 | 12:15 | | | - | 12:32 | | | 01:10 | 12:49 | | 02:33 | 13:08 | |



# Лічба нумара

**10%** на столькі ў **Беларусі** па загадзе канцэрна "Белнафтахім" у пачатку снежня павялічыліся ў сярэднім рознічныя цэны на аўтамабільнае паліва. З пачатку снежня літр папулярнай у аўтамабілістаў саляркі стаў каштаваць 6300 рублёў, а дызельнае паліва "Арктыка" (для язды ў маразы) – аж 7100 рублёў. Такім чынам, цэны на бензін і дызпаліва для беларускіх кіроўцаў сёлета павялічыліся ў чарговы раз, такіх сюрпрызаўскачкоў было ўжо болей за 10, і да іх быццам бы прызвычаіліся, машын на дарогах меней не становіцца.

Мінулым летам, праўда, у беларускай сталіцы з пэўным поспехам адбыліся масавыя акцыі пратэсту "Стоп, бензін!". Пасля іх беларускае кіраўніцтва па-папулісцку загадала адкруціць цэны на паліва назад, але цяпер яны ўжо значна перакрылі той майскі ўзровень. Ды і большасць беларускіх уладальнікаў аўтамабіляў ведаюць, што ў любы момант да новага года ці крыху пазней цэны на АЗС зноў пойдуць угору. Невыпадкова ж прэс-служба гэтага канцэрна празрыста намякае, што нават з улікам гэтага апошняга павелічэння цэн на нафтапрадукты яны ніжэй на 20-30 % за ўзровень аналагічных цэн у суседзяў на прасторах Расіі.

Вось толькі нам не кажуць, што і заробкі ў расіян вышэйшыя за беларусаў у 3 і нават 4 разы. І ўвогуле, 2011 год, які неўзабаве адыдзе ў гісторыю, прайшоў для нашай краіны пад знакам велізарных эканамічных цяжкасцей, хоць мы і сталі часткай Мытнага саюзу. Аднак адзіная на кантыненце эканоміка савецкага тыпу прадэманстравала сваю "эфектыўнасць": па росце цэн беларусы сталі сёлета сусветнымі лідарамі. Адначасова прыйшлося крыху раней, у канцы лістапада, увесці драконаўскія меры па абмежаванні вывазу паліва.

На сваіх аўтамабілях нашым суайчыннікам цяпер можна выязджаць за мяжу раз у 8 дзён, а не ў 5, як гэта было дагэтуль. Як вядома, з 11 чэрвеня сёлета паліва пры выездзе на працягу 5 сутак часцей стала абкладацца экспартнай пошлінай. Адным з плюсаў новых інтэграцыйных сувязей Беларусі стала ў гэтым годзе тое, што з 1 красавіка аўтамабільны кантроль на знешніх граніцах РФ і РБ стаў ажыццяўляцца па прынцыпе аднаго прыпынку. У выніку рост паездак транзітных перавозчыкаў на фурах па беларускіх дарогах павялічыўся болей чым на 20 %.

Яшчэ амаль 90 тысяч новых іншамарак на суму ў 900 млн. долараў экспарціравала наша краіна ў Расію на працягу першых 3 кварталаў года дзякуючы ўдзелу ў Мытным саюзе. Казахам і расіянам стала больш выгадна купляць у беларускіх аўтадылераў новыя машыны, увезеныя да 1 студзеня 2010 года, бо не трэба было плаціць падаткі на ПДВ і акцызы. У расіян такіх падатковых ільгот не было, і яны кінуліся да нас. Але і радавацца асабліва з гэтай нагоды не выпадае, бо на далейшы сэрвіс, тэхабслугоўванне суседзі наўрад ці пагоняць свае аўто ў Беларусь.

Засмучае і тое, што беларусы з самымі нізкімі доларавымі зарплатамі ў Еўропе (нават малдаване і ўкраінцы нас ужо апярэджваюць па гэтым паказчыку) не могуць разлічваць на набыццё нават і не самай дарагой новай іншамаркі. Наперадзе нас могуць чакаць і новыя сюрпрызы з-за ўступлення Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. На Мінскім аўтамабільным заводзе ўжо знаходзяцца ў лёгкай паніцы з гэтай нагоды, бо па нормах СГА РФ павінна рэзка ў 2,5 разы знізіць увазныя пошліны на грузавыя аўтамабілі. Гэта азначае для беларусаў імклівае павелічэнне канкурэнцыі на знешніх рынках збыту, і калі не аб'ядноўвацца з тым жа КамАЗам, то могуць для нашых вытворцаў наступіць зусім цяжкія часы.

Для піўной галіны Беларусі крызіс не за гарамі, а пенны напітак пасля навагодніх святаў з-за павышаных акцызаў яшчэ больш падаражэе. Зараз шэраг спецыялістаў лічаць, што эканамічная сітуацыя ў нас амаль што выйшла з-пад кантролю. У суседзяў рост цэн, як у нас на працягу некалькіх тыдняў, і за год не адбываецца. А вось у наступным 2012 годзе беларусаў чакае свой новы "БАМ": загадана калгасам правесці рэканструкцыю і мадэрнізацыю 1200-1300 ферм. Айчынныя гаспадаркі бедныя, і гэта азначае, што разам з імі вырашаць гэту складаную задачу будуць і прамыслоўцы, шэфы з гарадоў, прадпрымальнікі, адпаведныя спісы донараў галоўнай будоўлі 2-га года пяцігодкі на месяцах ужо складаюць…

**Дзень за днём**

**Беларускі ўрад вырашыў вярнуцца зноў да дзяржрэгулявання цэн на асноўныя прадукты і прамтавары і павысіць у 2012 годзе мінімальную заработную плату. Фонд ЕўрАзЭС пад жорсткія ўмовы выдзеліў Беларусі чарговы крэдыт у памеры 440 млн. $. На льготнае крэдытаванне будаўніцтва жылля ў будучым годзе выдзяляць на трэць меней сродкаў, аднак захоўваюцца льготы шматдзетным сем'ям. Жорсткі прысуд у адносінах беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага асудзілі 64 вядучыя міжнародныя арганізацыі, уключаючы Савет па правах чалавека РФ.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Пентагон заявіў, што амерыканцы не зменяць свае планы па разгортванні сіл супрацьракетнай абароны ў Еўропе, нягледзячы на пагрозы РФ прыняць меры ў адказ.

**Йемен.** Прэзідэнт Алі Абдула Салех пад ціскам свайго народу нарэшце падпісаў пакет дакументаў аб перадачы ўлады ў краіне ў абмен на імунітэт ад судовага пераследу.

**Англія.** Скотланд-Ярд затрымаў расійскага алігарха Уладзіміра Антонава, які абвінавачваецца ў злачынствах супраць банкаўскай сістэмы Літвы і яе банка Snoras.

**Расія.** Экс-прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў назваў існуючы расійскі рэжым улады "аўтарытарным", бо цяперашнія лідары РФ не абараняюць інтарэсаў свайго народа.

**Пакістан.** Пасля памылковага авіяўдару НАТА на памежны блокпост пакістанскай арміі і гібелі на ім 28 чалавек улады запатрабавалі ад ЗША вызваліць авіябазу Шамсі.

**Нарвегія.** Група вучоных-псіхіятраў выявіла, што забойца 77 чалавек Андэрс Брэйвік хворы на паранаідальную шызафрэнію, яго надоўга ізалююць ад людзей у псіхушцы.

**Мексіка.** Яшчэ 26 чалавек сталі ахвярамі ўзброеных сутычак наркабанд, іх трупы знайшлі ў некалькіх грузавіках у сталіцы штата Халіска, з 2006 года забіта 45 тысяч мексіканцаў.

**Сірыя.** Ліга арабскіх дзяржаў увяла новыя эканамічныя і палітычныя санкцыі супраць рэжыму Башара Асада, дзе яго ўрадавыя войскі забілі ўжо каля 5 тысяч чалавек.

**ЗША.** Амерыканскі ўрад, ЕС і Еўрапарламент заклікалі кіраўніцтва РБ "неадкладна і безумоўна" вызваліць праваабаронцу Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычна зняволеных.

**Літва.** Міністр юстыцыі Рэмігіюс Шымашус заявіў, што няма і не будзе болей палітычных кантактаў, прававых дагавораў і нават абменаў делегацыямі з Беларуссю.

**Расія**. На нядзелю 4 сакавіка 2012 года Савет Федэрацыі РФ прызначыў выбары новага прэзідэнта, на якіх фаварытам застаецца цяперашні расійскі прэм'ер У. Пуцін.

**Малдова**. З мэтай узмацнення барацьбы з курэннем і п'янствам у краіне забаранілі курэнне ў прысутнасці дзяцей і продаж алкагольных напояў з 22.00 да 9.00.

**Польшча.** Днём на дарозе пад Гданьскам паліцыя затрымала моцна п'янага расійскага консула ў Паморскім ваяводстве, за ім выклікалі іншага кіроўцу аўто.

**ЗША**. У горадзе Рычленд на 86-м годзе жыцця з-за раку тоўстай кішкі памерла дачка Сталіна Святлана Алілуева, яна лічыла бацьку " монстрам", рэвалюцыю – "памылкай".

**Ватыкан.** Падчас прыёму мітрапаліт Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч перадаў Папу Бенедыкту XVI кнігу асноўных палажэнняў вучэння Касцёла на беларускай мове.

**Эстонія.** Пад парывамі моцнага штармавога ветру да 28 м у секунду двойчы павалілася галоўная калядная ёлка краіны, на шчасце, абышлося без пацярпелых.

# У настаўнікі, спевакі і дыктары ў Беларусі будуць адбіраць па медыцынскіх паказаннях



■ nn.by

**У Беларусі плануецца ўвесці праверку на прафпрыдатнасць для прадстаўнікоў «гаваркіх» прафесій.**

У хуткім часе прадстаўнікоў голасавамаўленчых прафесій, такіх, як настаўнікі, спевакі, дыктары, журналісты, будуць правяраць на прафесійную прыдатнасць.

Пра гэта паведаміла дырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра отарыналарынгалогіі Людміла Макарына-Кібак.

Паводле яе словаў, даследаванні, праведзеныя спецыялістамі цэнтра, паказалі, што 70–80% людзей, чыя праца звязаная з неабходнасцю пастаянна выкарыстоўваць голас, пакутуюць на дэфекты голасу.

Каб у далейшым прадухіліць развіццё такіх прафесійных захворванняў, супрацоўнікамі цэнтра была створана база спецыфічных прафесій, работнікі якіх пакутуюць на розныя парушэнні голасу.

— Гэтая база дазволіць лёгка выявіць тую ці іншую паталогію, — растлумачыла спецыяліст. — Толькі на падставе запісу голасу чалавека можна будзе паставіць дыягназ і аказаць неабходную дапамогу.

Плануецца, што тэхналогія будзе выкарыстоўвацца не толькі для выяўлення і лячэння паталогій, што ўжо развіліся, але і для адбору людзей, якія ў будучыні хочуць працаваць у такіх прафесіях.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Былы памочнік прэзідэнта, прафесар Пётр Капітула рэзка раскрытыкаваў эканамічную палітыку улад РБ, канстатаваў, што не будзе ніякага росту айчыннага ВУП у 2012 годзе.

**Узда.** Следчая група аблпракуратуры раскрыла факт забойства 36-гадовага жыхара вёскі Лоша з-за калекцыі ў 2,5 тысяч манет коштам каля 40 тысяч $ яго 27-гадовым суседам.

**Мінск.** Адразу 34 вадзіцелі, незадаволеныя малымі зарплатамі, сабраліся звольніцца з работы ў аўтапарку № 6, большасць з іх пойдзе на грузаперавозкі альбо паедзе за мяжу.

**Жодзіна.** БелАЗ падпісаў дагавор з расійскай кампаніяй "Мечал" аб пастаўках у Расію на кар'еры Якуціі на працягу 10 гадоў 900 кар'ерных самазвалаў вялікай грузападымальнасці.

**Горкі.** Рыхтуючыся да правядзення "Дажынак-2012", жыхароў райцэнтра "папрасілі" на гэта мерапрыемства "скінуцца", бо ў крызіс патрабуецца шмат сродкаў.

**Гродна**. Ля вёскі Жукевічы прыватная фірма пабудавала новы цэх па развядзенні па польскай тэхналогіі да 100 тон афрыканскага сама ў год, вясной пачнецца яго продаж.

**Мінск.** Нават перамовы пра ўвядзенне адзінай валюты ў рамках АЭП не вядуцца, пацвердзіў віцэпрэм'ер Сяргей Румас, а вось РФ дапаможа Беларусі ва ўступленні ў СГА.

**Магілёў.** Ля вёскі Палыкавічы-2 айчынная фірма "Тайкун" пачала мантаж першых двух у вобласці ветраэлектрастанцый магутнасцю 800 кВт са здвоеным генератарам для ветру.

**Пінск.** Мясцовы завод "Гідрасельмаш" за 4 млрд. рублёў набыла ТАА "Аграрныя тэхналогіі", дзяржпакет акцый энергамеханічнага завода ў Белазёрску – фірма з Расіі.

**Мінск.** Генеральная пракуратура Беларусі адмовілася паведаміць вынікі праверкі выяўленых летась фактаў праслухоўвання тэлефонных размоў кандыдатаў у прэзідэнты.

**Шчучын.** Ледзь не загінуў на дне спушчанай сажалкі ААТ "Васілішкі" ў дрыгве браканьер пры спробе скрасці 35 кг карпа.

**Гомель.** Міліцыі ўдалося аператыўна раскрыць справу аб крадзяжы 48-гадовым майстрам "Беларусьнафты", жыхаром вёскі Уза, з поля ў раёне 18 тон курынага памёту.

**Столін.** З-за праблем з вучобай у Пінскім дзяржпедкаледжы і асабістых прычын у вёцы Вулька-Арэя застрэліўся з паляўнічай стрэльбы 21-гадовы навучэнец

**Кобрын.** У райцэнтры невядомы скраў з папулярнай скульптуры "Боцман" бронзавую люльку для курэння коштам 3,5 млн. рублёў, яна стаяла тут 2 гады.

**Гродна.** У гіпермаркеце "Алмі" прайшла акцыя супраць курэння "Не спальвайце сваё жыццё", дзе цыгарэты перакручвалі ў мясарубках, мянялі іх на смачныя цукеркі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Віцебск**. Па будаўніцтве жылля (376 тыс. кв. метраў, альбо 81,8 % леташняга узроўню) вобласць выйшла на перадапошняе месца ў Беларусі, горшая сітуацыя толькі на Магілёўшчыне.

**Навапалацк.** Замест 17 запланаваных у горадзе пабудавалі пакуль толькі 7 новых жылых дамоў, да канца года не справяць наваселлі жыхары яшчэ 10 шматпавярховак.

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец падчас "прамой лініі" распарадзіўся звольніць з працы начальніка ЖЭУ і намесніка старшыні гарвыканкама за хібы ў дзейнасці гарадской ЖКГ.

**Верхнядзвінск.** Урад РБ вызначыў парадак працэдур па арганізацыі малога прыгранічнага руху з Латвійскай Рэспублікай для жыхароў раёна і суседніх Браслаўскага і Міёрскага.

**Полацк.** Ад ураганнага ветру без электрычнасці засталіся больш за 70 населеных пунктаў раёна, пацярпелі 2 фермы, 350 трансфарматарных падстанцый, павалілася шмат дрэў.

**Орша.** На фоне зніжэння на Віцебшчыне ўзроўню злачыннасці на Аршаншчыне самая складаная крымінагенная абстаноўка: 191 злачынства на 10 тыс. чалавек (вобласць -105).

**Варапаева.** Адразу 65 работнікаў мясцовага завода жалезабетонных вырабаў з'ехалі на заробкі ў Расію, іх прадпрыемства больш прастойвае, чым працуе, з-за крызісу будгаліны.

**Віцебск.** Уладальнік кампаніі "Марка" Мікалай Мартынаў сабраўся пашырыць вытворчыя магутнасці за кошт завода гумавых вырабаў у Крычаве.

**Новалукомль.** У мясцовым рыбгасе Чашніцкай ПМК меліярацыі запрацаваў новы цэх па вырошчванні малькоў фарэлі, у маі гэты маладняк прададуць іншым рыбгасам Беларусі.

**Друя.** Позна ноччу ў пасёлку згарэў бар "Надзея", які належаў Браслаўскаму райпа, агонь у цагляным будынку тушылі на працягу гадзіны, прычыны высвятляюцца.

**Глыбокае.** Па дадзеных маніторынга абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, выклікае асаблівую трывогу стан азёр Вялікае і Кагальнае.

**Віцебск.** У калоніі "Віцьба-3" на два тыдні змясцілі на так званы каранцін дастаўленага этапам экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, да яго не дапускалі адваката.

**Полацк.** Міліцыя затрымала аўтамабіль "Фальксваген-гольф", на якім 49-гадовы палачанін перавозіў 240 бутэлек віна без дакументаў, за кантрабанду ён будзе пакараны.

**Гарадок.** За падбухторванне да дачы хабару (200 тыс. рублёў) і махінацыі суд пакараў папраўчымі работамі 42-гадовага ўрача-нарколага цэнтральнай раённай бальніцы.

**Віцебск.** Пасля публікацыі шэрагу рэзкіх антыбеларускіх матэрыялаў звольнілі з працы сумнавядомага чыноўніка А. Герашчанку ў сувязі з заканчэннем яго кантракту.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Вечарына да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча

■ Ігар Пракаповіч

**Па ініцыятыве сяброў раённай суполкі Таварыства Беларускай Мовы і культурніцка-экалагічнай арганізацыі "Шыпшына", супрацоўнікаў раённай газеты, пастаўскай бібліятэкі і іншых установаў культуры на Пастаўшчыне годна адзначылі 120-годдзе класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча.**

На мінулым тыдні былі праведзены літаратурныя чытанні па творчасці Паэта, прайшоў конкурс чытальнікаў вершаў М. Багдановіча сярод школьнікаў, працягваецца конкурс літаратурных твораў, а 8 снежня ў зале раённага дома культуры адбылася урачыстая літаратурна-мастацкая вечарына. Спалучэннем глыбіннага патрыятызму і тонкай лірычнасці была напоўнена праграма, якую падрыхтавала супрацоўніца дзіцячай бібліятэкі і сяброўка ТБМ Людміла Сяменас, а правялі яе, выдатна патрапіўшы ў пачуццёвы настрой творчасці пісьменніка, вучні пастаўскай гімназіі Міхаіл Дзюшко і Маргарыта Сяменас. Присутныя (а зала была поўная) змаглі пазнаёміцца з жыццёвым і творчым шляхам Паэта, асобныя эпізоды якога адлюстроўваліся на вялікім экране падчас прэзентацыі.

Вялікі эмацыйны зарад неслі выступленні ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Прыгожа гучала ў выкананні вакольнай групы настаўнікаў раёна песня на словы М. Багдановіча "Хмары", музыку да якой напісала яе кіраўнік Людміла Логінава. Пранікнёнымі і кранальнымі былі і іншыя песні на гэтай вечарыне. Іх выконвалі вучаніца СШ №1 Анна Антух ("Па-над белым пухам вішняў…"), вучаніца СШ №2 Анна Бекіш ("Слуцкія ткачыхі"), саліст Навінкаўскага клуба-бібліятэкі Канстанцін Сыгула ("Малітва" Я. Купалы).



Выдатна глядзелася выступленне групы гітарыстаў раённага аб'яднання пазашкольных установ, якія выканалі "Зорку Венеру".

Арганічна спалучался з агульным матывам вечарыны тэатральная дзея на верш М. Багдановіча "Русалкі", які выканалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з Варапаева. І нават нечаканы рэп на словы паэта выглядаў вельмі ўдалай імправізацыяй і выклікаў у гледачоў дружныя воплескі. Гэта і ня дзіўна: большасць прысутных – моладзь і вучні старэйшых класаў.

Хочацца спадзявацца, што той узнёсла-патрыятычны настрой, які панаваў у час вечарыны, закрануў глыбокія вірыдуш усіх прысутных, уліўшы туды свежыя струменьчыкі любові да ўсяго роднага – Бацькаўшчыны, народа, мовы…

## Чытачы дапамаглі шматдзетнай сям'і з Германавічаў

■ Кастусь Шыталь

**Чытачы незалежнай прэсы перадалі грошы і рэчы сям'і Станіслава Ананіча з мястэчка Германавічы Шаркоўшчынскага раёна.**

Станіслаў Ананіч адзін гадуе траіх дзяцей. Дапамагчы няма каму – бацькі ўжо памерлі, а жонка сышла. Акрамя таго, Станіслаў мае сур'ёзныя праблемы са здароўем.

Артыкул пра сям'ю Ананічаў напісала для сайта westki.info «Весткі» грамадская дзяячка Ада Райчонак. Яна заклікала чытачоў дапамагчы Станіславу хто чым можа. У хуткім часе матэрыялпередрукавала незалежная газета «Народная воля», якая выходзіць накладам каля 30.000 асобнікаў.

У хуткім часе Станіслаў пачаў атрымліваць грашовыя пераводы і пасылкі з рэчамі з розных рэгіёнаў Беларусі. Іх дасылалі людзі з Мінска, Віцебска, Магілёва, Гомеля, Светлагорска, Браслава, Івянца, Камунараў, вёскі Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна. Некалькі сем'яў з Наваполацка сабралі вялікую колькасць рэчаў і прывезлі ў Германавічы.

«Я не ведаю, якія словы падабраць мне, каб выказаць вам, добрыя людзі, маю шчырую ўдзячнасць. Сённяшні дзень самы шчаслівы для маіх дзяцей: такія падарункі, якія ім прывезлі, ніхто ніколі не дарыў», – піша Станіслаў Ананіч у сваім лісце ў «Народную волю».

Публікацыі «Вестак» і раней выклікалі рэзананс у грамадстве. Але ўпершыню артыкул згаданага сайта стаў штуршком для дабрачыннай акцыі, у выніку якой шматдзетная сям'я атрымала матэрыяльную падтрымку.



## ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» распачало праект па далучэнні ў прыродаахоўную дзейнасць пажылых людзей

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) пачала рэалізацыю праекта па далучэнні ў прыродаахоўную дзейнасць пажылых людзей. Праект рэалізуецца сумесна з міжнародным грамадскім аб`яднаннем «Узаемаразуменне» ў межах праграмы «Месца сустрэчы — дыялог» пры фінансавай падтрымцы фонду «Памяць, адказнасць і будучыня».**

Як паведаміў БелаПАН спецыяліст па экалагічнай адукацыі арганізацыі Руслан Шайкін, мэта праекта — разнастаіць вольны час пажылых людзей, далучыць іх у прыродаахоўную дзейнасць. Усяго праект ахопіць прыкладна 70-80 пенсіянераў з дамоў-інтэрнатаў у Мінску, Барысаве, Смаргоні, гарадскім пасёлку Шуміліна Віцебскай вобласці. Большасць з пенсіянераў — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, былыя вязні канцлагераў. На працягу паўтара гадоў АПБ штомесяц будзе праводзіць для іх розныя мерапрыемствы, у тым ліку сустрэчы з арнітолагамі, якія раскажуць пажылым людзям пра птушак, пакажуць відэакадры пра дзікую прыроду. Запланаваныя таксама майстар-класы па вырабе кармушак і штучных гнёздаў для пеўчых птушак, такіх як вушастая сава і пустальга. Апрача таго, у цёплую пару года будуць арганізоўвацца экскурсіі на прыродзе.

Чакаецца, што па выніках праекта сярод пажылых людзей будуць вызначаныя найбольш актыўныя аматары прыроды, якія ў будучым самі змогуць праводзіць экскурсіі па назіранні за птушкамі.

На думку Шайкіна, праект асабліва важны ў сувязі з тым, што ў Беларусі няшмат магчымасцяў для самарэалізацыі і арганізацыі вольнага часу пажылых людзей. Упершыню такая пілотная ініцыятыва была рэалізавана АПБ летась, тады ў праекце ўзялі ўдзел пенсіянеры-мінчане. Прадстаўнік АПБ разлічвае, што праект будзе пашыраны. У перспектыве на яго аснове АПБ плануе ствaрыць пастаянна дзейныя клубы па назіранні за птушкамі для людзей сталага веку.



*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

## Зюзя Паазерскі ў Паставах гатовы сустракаць сяброў

Як паведаміў кіраўнік Пастаўскага цэнтра турыстычных паслуг Ягор Шушкевіч, сёлета праграма будзе крыху зменена – дададуць новыя забаўляльныя элементы, зменяць дэкарацыі, але элементы Калядаў па беларускіх традыцыях застануцца нязменнымі. "У нас ужо вельмі шмат заявак, прычым тут атрымалася 50 на 50 – цікава і дарослым, і дзецям. На выходныя, 17 і 18, а таксама 24 і 25 снежня ўжо нават не запісваем групы, бо ўсё запоўнена", – кажа ён. Таму перш, чым паехаць у госці да Зюзі, варта спраўдзіць інфармацыю пра вольныя месцы: (2155) 4 27 77.

## Велізарная падзяка ўсім, хто не пакінуў нас сам-насам з бядой!

21 кастрычніка 2011 года адбыўся пажар у жылым доме ў вёсцы Узрэчча, дзе мы пражывалі з дваімі маленькімі дзецьмі. Прычына – узгаранне блока пітання камп'ютара. Пры пажары дом і ўся маёмасць згарэла. Дзяцей (дзве дзяўчынкі – 1 і 2-х гадоў) з пылаючай хаты вынесла бабуля, якая на той момант прыглядала за імі.

Практычна на наступны дзень жыхары пачалі звяртацца ва Узрэцкі сельвыканкам з прапановамі аб аказанні дапамогі.

У сельвыканкаме была створана часавая камісія па аказанні дапамогі. У кожнай вёсцы старэйшыны населеных пунктаў, дэпутаты і проста неабыякавыя людзі збіралі ахвяраванні, як грашыма, так і рэчамі, і перадавалі ў сельвыканкам. Сабрана больш за 10 млн. рублёў, а таксама адзенне, абутак, прадукты.

Акрамя гэтага збор ахвяраванняў арганізаваў ксёндз Мячыслаў (касцёл святой Тройцы г. Глыбокае), сабрана больш 5 млн. руб.

Дзякуючы ініцыятыве дырэктара Запрудскай школы Барыса Ілліча Зайца паступілі ахвяраванні ад жыхароў вёсак Запруддзе, Загор'е, Вераб'і Залескага сельсавета.

На сабраныя грошы мы змаглі купіць жылы дом у в. Пятроўшчына і праводзім у ім неабходны рамонт, спадзяемся да Новага года пераехаць.

Выказваем велізарную падзяку ўсім, хто не пакінуў нас сам-насам з бядой, аказаў пасільную матэрыяльную і маральную дапамогу. Яшчэ дзякуем кіраўніцтву Узрэцкага сельвыканкама, актывістаў за аператыўную арганізацыю збору сродкаў.

Хай у Вашы хаты ніколі не прыходзіць бяда і няшчасце.

*Даргель Святлана, в. Пятроўшчына*

## МНС інфармуе
### на 13.12.2011 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1278;
Гібель людзей – 190, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 4900,1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 62;
Гібель людзей – 10, з іх дзяцей няма;
Урон – 573 170 000 руб.

# Першынство Глыбоцкага раёна па дартсу

*Фотарэпартаж*

**Ганна Холад,** *тэкст и фота.*

**10 снежня ў памяшканні Глыбоцкага ЦФАП праходзілі спаборніцтвы па дартсу, якія ўваходзяць у праграмму круглагадзічнай раённай працоўнай спартакіяды сярод прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў.**

Дартс мусіў быць апошнімі спаборніцтвамі ў спартакіядзе 2011 года, але засталіся яшчэ, перанесеныя з лютага на снежань, лыжныя гонкі, якія таксама ўключаныя ў склад спартакіяды. Праўда, лыжнікі асабліва і не паўплываюць у вызначэнні лідараў працоўнай спартакіяды 2011 года, бо імі з'яўляюцца две каманды, які выступілі ва ўсіх відах праграмы спаборніцтваў: Глыбоцкі дзяржпрафліцэй і УП ЖКГ Глыбоцкага раёна.



Срэбныя прызёры спаборніцтваў Я.Самсонаў і Н. Холад з узнагародамі.



Падчас спаборніцтваў.

У сёлетніх спаборніцтвах па дартсу ўдзел прыняло шэсць каманд: Аграсервіс, ДЭУ-35, ЖКГ, ККЗ, Ахова, Ліцэй. Барацьба была ўпартай і напружанай. Аб гэтым яскрава гавораць вынікі.

Сарод мужчын пераможцам стаў прадстаўнік камбікармовага завода Андрэй Дзікавіцкі (з 150 магчымых выбіў 122 ачкі). На другім месцы Яўген Самсонаў (ЖКГ) – 117 ачкоў і трэці прызёр Дзяніс Стахоўскі (Ахова) – 113 ачкоў.

Сярод жанчын перамагла Тацццяна Гатоўская ДЭУ 35 – 104 ачкі. 2 ачкі ёй саступіла Наталля Холад (ЖКГ) – 2 месца, а на трэцім месцы Хелена Німярчук (ККЗ) – 101 ачко.

## «Міс Байнэт-2011» стала палачанка Марыя

**Яна Ільіна**

**У анлайн-конкурсе прыгажосці «Міс Байнэт-2011», які ўпершыню прайшоў у Беларусі, перамагла 27-гадовая жыхарка Полацка Марыя.**

Лепшую дзяўчыну вызначыла не меркаванне журы, а галасаванне інтэрнэт-карыстальнікаў. Як сцвярджаюць арганізатары конкурсу, над ім «працавалі лепшыя праграмісты Байнэту». Яны распрацавалі «ўнікальны матэматычны апарат галасавання – падрабіць ці накруціць яго працу немагчыма, што дае роўныя шанцы на перамогу кожнай удзельніцы конкурсу».

Конкурс ішоў чатыры месяцы, з 1 жніўня па 1 снежня. Суперфінал доўжыўся з 6 па 11 снежня. У выніку з 20 фіналістак найвялікшыя сімпатыі інтэрнэт-карыстальнікі выказалі палачанцы.



## У эстафетных гонках на другім этапе Кубка свету па біятлоне ў Хохфільцэне мужчынская зборная Беларусі заняла восьмае месца, жаночая — пятае

**У эстафетных гонках 11 снежня, у заключны дзень другога этапу Кубка свету па біятлоне ў аўстрыйскім Хохфільцэне, мужчынская зборная Беларусі заняла восьмае месца, жаночая — пятае.**

Мужчынская каманда пераадолела дыстанцыю 4х7,5 км за 1 гадзіну 17 хвілін 18 секунд без штрафных кругоў з трыма дадатковымі патронамі (Сяргей Новікаў — 0+0 і 0+2, Аляксандр Бабчын — 0+1 і 0+0, Уладзімір Алянішка, Яўген Абраменка — па 0+0 і 0+0).

У тройцы лепшых — Нарвегія (1:14.52,9; 1+7), Расія (+13,9; 0+5) і Францыя (+31.0; 0+6). Да фінішу даехалі 17 з 25 зборных, якія стартавалі.

Дыстанцыю 4х6 км жаночая зборная Беларусі праехала за 1 гадзіну 9 хвілін 20,8 секунды без штрафных кругоў з васьмю дадатковымі патронамі (Людміла Калінчык — 0+1 і 0+3, Надзея Скардзіна — 0+1 і 0+0, Анастасія Дубарэзава — 0+0 і 0+2, Дар'я Домрачава — 0+1 і 0+0).

Узнагароды заваявалі Нарвегія (1:07.13,3; 0+10), Францыя (+13,6; 0+3) і Расія (+29,4; 0+6). Да фінішу дабраліся 12 з 18 зборных.

Трэці этап КМ пройдзе з 15 па 18 снежня. Спаборніцтвы зноў прыме Хохфільцэн, таму што ў французскім Ансі няма снегу.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*




# ЛЕПШЫЯ МАТЧЫ НАПЕРАДЗЕ

### "Днепр" (Магілёў) – "ПМЦ-1" (Паставы) – 2:6

**Кастусь Александровіч**

Сёлета матчы нацыянальнага першынства завяршыліся позняй восенню. Пастаўчане непакоіліся, што прыйдзецца два заключныя матчы 1-га круга гуляць па снезе. Аднак усё абышлося дзякуючы цёпламу не па сезону надвор'ю. Тым не меньш не абышлося без сюрпрызаў, паколькі аб пераносе паядынку 14-га тура ў Мінску каманда ПМЦ даведалася толькі за суткі і ў яе не было магчымасці правесці паўнацэнную падрыхтоўку да сустрэчы з выхаванцамі рэспубліканскага вучылішча алімпійскага рэзерва, яшчэ аднаго з базавых клубаў нацыянальнай зборнай.

Такі фактар адбіўся на дзеяннях гасцей, асабліва ў першым тайме, які яны прайгралі з мінімальным лікам. У яго канцоўцы ў пастаўчан былі 3 яўныя моманты для ўзяцца варот саперніка, але не атрымалася гэтага дабіцца. Другая палова сустрэчы праходзіла ўжо пад дыктоўку ПМЦ. Канчатковую кропку ў гульні паставіў самы выніковы ў камандзе, флангавы паўабаронца Ігар Пукаў. Сустрэча завяршылася ўнічыю з лікам 1:1, пастаўскай камандзе давялося завяршаць сезон зноў на выездзе ў Магілёве супраць рэзервістаў з няўдачніка вышэйшай лігі.

Абедзьве каманды жадалі паспяхова завяршыць заключную гульню першага круга перад працяглым зімовым перапынкам. Магіляўчане напярэдадні сатварылі дома сапраўдную сенсацыю і нанеслі першае паражэнне ў сезоне (лік быў 1:0) аднаасобнаму лідару – мінскім дынамаўцам. У сваю чаргу госці з Віцебшчыны добра падрыхтаваліся да гэтага паядынку і былі настроены рашуча. Праўда, у пачатку сустрэчы пасля доўгай дарогі пастаўчанам прыйшлося нялёгка, іх сапернік прыціснуў да сваіх варот.

Сведчаннем гульнявой перавагі гаспадароў стаў першы гол у іх выкананні. Камандзе ПМЦ проста пашчасціла яшчэ ў двух эпізодах, калі дняпроўцы не рэалізавалі свае зручныя моманты для ўзяцця варот. Аднак футбол – гэта такая гульня, дзе сітуацыя на полі можа змяніцца кардынальным чынам, што і здарылася ў гэтым заключным матчы сезона. Паступова пастаўчане прыйшлі ў сябе і самі сталі вострa атакаваць. Пры завяршэнні хуткіх атак у іх складзе зноў высокае выканаўчае майстэрства прадэманстраваў паўабаронца Ігар Пукаў, які вызначыўся двойчы і да перапынку вывеў сваю каманду наперад – 1:2.

Кароткі адпачынак больш пайшоў на карысць гасцям, якія ў другім тайме сталі гуляць у сваю ўлюбёную хуткасную атакуючую гульню з рэзкім пераходам на палову поля саперніка. Ужо магіляўчанам прыйшлося цяжка, яны вымушаны былі думаць, як адвесці шматлікія пагрозы ад сваіх варот. У складзе пастаўчан выйшаў на замену новы нападаючы Аляксей Пятрэнка, які лепш астатніх умее гуляць у паветры. У выніку ў адным з эпізодаў Аляксей умела адгукнуўся на вакхаву перадачу партнёраў і яшчэ больш павялічыў перавагу ў ліку каманды ПМЦ. Неўзабаве гэты форвард пастаўчан зноў вынікова згуляў пры розыгрышы вуглавога ўдару.

Праўда, магіляўчанам удалося крыху скараціць розніцу ў ліку, аднак пазбегнуць буйнога дамашняга паражэння яны не здолелі. У канцоўцы матчы ў складзе гасцей змаглі вызначыцца выйшаўшы на замену апорны паўабаронца Арцём Галяк, а канчатковую кропку паставіў дакладным ударам пастаўскі нападаючы Кірыл Сідарэнка. Чарговыя тры ачкі ў скарбонку каманды прынеслі: Чарняк, Канонік, Альсевіч, Жарскі (к), Рымчонак (Архіпаў), Бабічаў, Санько (Галяк), Латышаў (Давыдзенка), Пукаў (Сысянкоў), Сідарэнка, Журневіч (Пятрэнка).

У выніку на рахунку каманды ПМЦ у першай палове нацыянальнага першынства стала 7 перамог, 3 нічыі і 5 паражэнняў пры розніцы мячоў 41-36. Пастаўчане набралі 24 ачкі і занялі прамежкавае 7 месца сярод 16 мацнейшых юнацкіх каманд Беларусі, пры тым тым, што 10 з праведзеных 15 матчаў яны згулялі на выездзе з сапернікамі, старэйшымі за іх на год і болей. Дарэчы, да тройкі лідараў ім зусім блізка, разрыў у некалькі ачкоў, а ў другім крузе большасць сваіх паядынкаў ПМЦ правядзе на родным стадыёне ў Паставах.

Галоўны трэнер пастаўчан, майстар спорту Сяргей Ясінскі, падводзячы вынікі сезона, зазначыў безумоўны прагрэс сваіх падапечных, якія сталі сапраўдным адкрыццём вышэйшай лігі. Большасць пастаўленых перад імі задач хлопцы выканалі паспяхова і яны маюць добрыя перспектывы стаць сапраўднымі майстрамі, зрабіць прафесійную кар'еру і згуляць у вядомых беларускіх і нават замежных клубах. Таксама нядрэнна сябе паказала на нацыянальным узроўні і другая, маладзейшая каманда "ПМЦ-2".

Чэмпіянат Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе прадоўжыцца будучай вясной. У гэтай паўзе старэйшая каманда яшчэ з'ездзіла зноў у Маскву, дзе ў манежы памерылася сіламі з выхаванцамі расійскіх суперклубаў "Дынама" і "Спартак". Пастаўчане хоць і прайгралі двойчы масквічам, але асабліва са спартакаўцамі былі блізкія да поспеху і мала ў чым ім саступалі. Напрыканцы снежня каманда "ПМЦ-2" згуляе на буйным міжнародным юнацкім турніры (U-15) у Вільнюсе, на аналагічны еўрапейскі турнір яны запрошаны ў лютым у Рыгу. Будучай ранняй вясной старэйшыя хлопцы паедуць у госці да аданагодкаў лідара ўкраінскага футбола – "Шахцёр" (Данецк).

# Мінулая восень у Беларусі стала самай сухой за 30 гадоў

У гэтым годзе восень у Беларусі была незвычайна сухой і цёплай. Сярэдняя тэмпература паветра за сезон склала плюс 7,4 градуса пры кліматычнай норме плюс 6,3 градуса. Аб гэтым нядаўна паведаміла ў ходзе online канферэнцыі на сайце БЕЛТА «Прагноз надвор'я: угадваем або вылічваем?» начальнік аддзела клімату Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Алена Камароўская. Паводле слоў спецыяліста, такой цёплай восень у нашых шыротах бывае прыкладна адзін раз у тры-чатыры гады, а такой сухой — раз у 30 гадоў.

Гэтай восенню ў Беларусі цёплымі былі ўсе тры месяцы.

Тэмпература паветра ў верасні склала плюс 13,5 градуса, што вышэй за кліматычную норму на 1,6 градуса. Такі цёплы верасень бывае прыкладна раз у сем гадоў.

Сярэдняя тэмпература паветра ў кастрычніку была блізкая да кліматычнай нормы (плюс 6,2 градуса) — 6,3 градуса цяпла. Пераход сярэдняй сутачнай тэмпературы паветра праз плюс 5 градусаў у бок паніжэння (заканчэнне вегетацыйнага перыяду) ажыццявіўся на большай частцы тэрыторыі краіны 13–15 кастрычніка, па паўночнай палавіне рэспублікі — на 4–8 дзён раней за звычайныя тэрміны, па паўднёвай палавіне — на 9–17 дзён раней. Толькі ў Шаркоўшчыне і Верхнядзвінску гэты перыяд адбыўся 26 кастрычніка — на 5–6 дзён пазней.

Сярэдняя месячная тэмпература паветра лістапада склала плюс 2,3 градуса, што вышэй за кліматычную норму на 1,6 градуса. Устойлівага пераходу сярэдняй сутачнай тэмпературы паветра праз нуль градусаў (што азначае пачатак зімы) у лістападзе так і не адбылося.

Гэтай восенню выпала 79 мм ападкаў, што складае 50 працэнтаў кліматычнай нормы. Такая малая колькасць ападкаў у Беларусі за асеннія месяцы рэгіструецца прыкладна раз у 30 гадоў. Найбольш ападкаў выпала ў Віцебскай вобласці — 107 мм (64 працэнта кліматычнай нормы), найменш — у Брэсцкай — 50 мм (33 працэнты нормы).

У верасні ў сярэднім па рэспубліцы выпала 36 мм ападкаў (61 працэнт нормы), у кастрычніку — амаль 29 мм ападкаў (57 працэнтаў). А самым сухім з асенніх месяцаў быў лістапад — у сярэднім па Беларусі выпала 14 мм ападкаў (29 працэнтаў кліматычнай нормы). Такая і меншая колькасць ападкаў фіксуецца ў лістападзе прыкладна раз у 30 гадоў. Найбольш сухой была першая дэкада месяца, калі ў сярэднім па Беларусі выпала 0,2 мм ападкаў, або 1 працэнт дэкаднай кліматычнай нормы. На асобных метэастанцыях Брэсцкай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей такога сухога лістапада не адзначалася ні разу за ўсю гісторыю метэаназіранняў.

Паводле даных сіноптыкаў, самай цёплай восень у Беларусі была ў 1967 годзе, калі сярэдняя тэмпература сезона склала плюс 9 градусаў, а самай халоднай — у 1993 годзе з сярэдняй тэмпературай паветра плюс 3,2 градуса.

*БелТА*

# – Пад Новы год будзе лёдастаў!– кажуць сіноптыкі

**■ А.В. Протас ,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ахоы жывёльнага і расліннага свету.*

Вось і наступіла доўгачаканая шматлікімі рыбаловамі аматарамі зіма, але лёду на азёрах усё няма, аднак да Новага года сіноптыкі прадказваюць лёдастаў, і можна будзе лавіць рыбу з лёду вудай або жарліцамі. У сувязі з чым, лічым неабходным, нагадаць, што і на зімовай рыбалцы неабходна выконваць Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь. **Да прыкладу,** нельга лавіць рыбу больш за 10 кручкоў адначасова, за выключэннем вадаёмаў адмыслова вылучаных для вядзення інтэнсіўнага рыбалоўства, (ад 10 да 20 кручкоў), кідаць смецце на лёд, ажыццяўляць уезд ці перасоўванне па ледзяным покрыве на механічных транспартных сродках, ажыццяўляць лоўлю рыбы на якую уведзена забарона ў дадзены перыяд (мянтуз звычайны з 25 снежня па 28 лютага), лоўля рыбы ў якасці прынады для лоўлі іншых відаў рыбы не больш за 30 штук на аднаго рыбалова ў суткі, можна выкарыстоўваць багорык з шырынёй кручка (адлегласць ад цаўя да ляза джала) не больш за 9 см.

Паводле рашэння Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта ад 26 лютага 2010 года № 243 для вядзення інтэнсіўнага спосабу лоўлі рыбы штогод з 1 чэрвеня ў фондзе запасу рыбалоўных угоддзяў у светлы час сутак вылучаны наступныя вадаёмы: Алойзберг, Сетаўскае, Вялец, Арэхаўскае, Мядзвёдкаўскае, Акунёўскае, Вялікі Супонец, Дварэцкае, Забельскае, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае, Івесь, Псуя, Станульскае, Мушкат, Камінскае.

Пры лоўлі на ўказаных вадаёмах жарліцамі або іншымі прыстасаваннямі, якія перавышаюць агульная колькасць кручкоў ад 10 да 20 штук, рыбалоў абавязаны мець пры сабе квіток рыбалова, яго можна набыць у Глыбоцкім раённым таварыстве паляўнічых і рыбаловаў. У выпадку адсутнасці квітка рыбалова ці пры яго наяўнасці, але з няплатай штогадовай мыты, грамадзяне будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці па ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні», штраф ад 10 да 50 базавых велічынь.

На тэрыторыі раёна маюцца арандаваныя вадаёмы, дзе неабходна праводзіць аплату за лоўлю рыбы, гэта азёры Карпінскае і Бярозаўскае, якое арандуецца КФХ «Карпікі», возера Крывое-1 паблізу в. Лявонавічы, якое арандуецца ТАА «Сервік» і возера Чачалі, што арандуецца ПП «Аграбізнескансалт», усе даведкі пра аплату можна спраўдзіць у арандатараў вадаёмаў.

На ўсіх астатніх вадаёмах раёна можна вольна лавіць рыбу вудамі і жарліцамі з агульнай колькасцю кручкоў, якія не перавышаюць 10 штук ( 9 жарліц і 1 вуда).

Нагадваем усім рыбаловам аматарам на строгае выкананне правіл рыбалоўства, вылоўліванне асобных відаў рыбы не дасягнулай прамысловай меры, напрыклад шчупак не меней 35 см., а гэтак жа вага вылаўленай рыбы не павінна перавышаць норму 5 кг. у суткі на аднаго рыбака. За вылоўліванне рыбы не дасягнулай прамысловай меры або вагі, якая перавышае ўсталяваную правіламі норму, настае адміністрацыйная адказнасць па ч.2 арт. 15.35 Ко АП Рэспублікі Беларусь ад папярэджання да 20 базавых велічынь з пакрыццём шкоды (за 1 маламернага шчупака 35 тыс. рублёў).

Просьба не забываць, што зіма толькі наступіла і лёд яшчэ вельмі слабы, не забывайце пра меры засцярогі. Вазьміце з сабою шнур, вяроўку, дошку, не ідзіце адзін на рыбалку. Паблізу месцаў, дзе працякае рака, маюцца ключы і г.д.

Просьба не пакідаць пасля сябе на лёдзе смецце, шкляны посуд, пакеты, захоўвайце чысціню лёду. Паспяховай усім рыбалкі!

Пра ўсе парушэнні можна паведамляць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70, маб. МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 347-85-14.

# На пярэдадні Новага года

**■ А.С. Крывёнак,**
*старэйшы інспектар Глыбоцкага МрА «Энерганагляд»*

**Усё менш дзён застаецца да навагодніх і калядных свят. Ва ўсіх кватэрах, дамах, арганізацыях, дзіцячых садах, школах, дамах культуры вядзецца актыўная падрыхтоўка: упрыгожваюцца вуліцы, фасады будынкаў, памяшканні, упрыгожваецца лясная прыгажуня – елка.**

Стварыць навагодні настрой нам заўсёды дапамагаюць рознакаляровыя агні гірлянд, падсвятлені будынкаў, рэкламныя шчыты. Аднак, каб у навагоднюю ноч не атрымаць у «падарунак» пажар ці няшчасны выпадак, і ў разгар свята неабходна выконваць элементарныя правілы электрабяспекі.

У першую чаргу для ілюмінацыі елак, памяшканняў, залаў павінны выкарыстоўвацца гірлянды электрычных лямпачак і электронных прыбораў толькі завадскога выраба. Перад развешваннем электрапрыбораў неабходна пераканацца ў адсутнасці пашкоджанняў лямпачак, патронаў, сілкавальных кабеляў. Электраправодкі падключэння елкавых гірлянд, светлавога афармлення памяшканняў і будынкаў неабходна размясціць так, каб пазбегнуць іх пашкоджання. У пярэдадне Новага года падключэнне вонкавых навагодніх гірлянд елак варта праводзіць трохжыльным гнуткім кабелем праз прыладу ахоўнага адключэння (УЗО) сумешчаную з аўтаматычным выключальнікам. Пры гэтым трос, на якім мацуецца кабель, неабходна абараніць з ахоўным правадніком. Гэта забяспечыць электрабяспеку, абарону ад кароткага замыкання і ўзгарання.




Схема подключения наружных электрогирлянд и Новогодних ёлок

# Магчымасці беларускага палявання прэзентавалі ў Маскве

**■ Эдуард Півавар,**
*БелТА.*

Магчымасці беларускага палявання прэзентавалі нядаўна ў пасольстве Беларусі ў Расіі. Мэтай мерапрыемства стала знаёмства расіян з магчымасцямі і ўмовамі правядзення палявання на базе паляўнічых гаспадарак у нацыянальных парках «Прыпяцкі», «Белавежская пушча», «Браслаўскія азёры», «Нарачанскі» і Бярэзінскім біясферным запаведніку, перадае карэспандэнт БелТА.

На гэта мерапрыемства, арганізаванае дзяржаўнай установай «Цэнтркурорт» Упраўлення справамі Прэзідэнта Беларусі, сабраліся прадстаўнікі расійскіх паляўнічых клубаў і СМІ. Яны змаглі атрымаць вычарпальную інфармацыю пра месцы правядзення палявання ў Беларусі і аказваемых паслугах. Больш падрабязна было расказана і пра асноўныя віды палявання: на аленя, лася, зубра, кабана, казулю, цецерука, глушца, вадаплаўную птушку. Акрамя таго, адбылася прэзентацыя адмысловага інтэрнэт-партала, цалкам прысвечанага беларускаму паляванню, дзе сярод іншага можна зрабіць заяўку на арганізацыю індывідуальнага ці калектыўнага паляўнічага тура.



Як адзначыў начальнік «Цэнтркурорта» Алег Міхайлаў, паляўнічыя туры, якія арганізуюцца ў Беларусі, карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў прадстаўнікоў самых розных краін. Паляванне ў наш час – гэта не толькі хобі, але і адзін з відаў бізнэсу.

Удзельнікі прэзентацыі змаглі паспытаць стравы беларускай кухні, прыгатаваныя з дзічыны, якая насяляецца на тэрыторыі Беларусі.




**7 снежня 1966 г. на 1-м устаноўчым з'ездзе Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры было заснавана адно з самых старэйшых і спадзяюся дзейсных грамадскіх аб'яднанняў Беларусі.**

Віншую ўсіх сяброў і прыхільнікаў Таварыства з юбілеем, жадаю ўсяго найлепшага, каб нашая праца спрыяла захаванню аднаго з самых неацэнных скарбаў нашай Бацькаўшчыны – беларускай гісторыка-культурнай спадчыны.

***Антон Астаповіч,***
*старшыня Рэспубліканскага савета Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.*

*Віктара Яўгеньевіча Самсонава*

**Віншуем з нагоды дня народзін**

Сегодня, в День Рожденья твой
Мы пожелать тебе готовы
Друзей, хранящих от врагов,
Чтоб стороною прошли невзгоды!
Здоровье, вера и добро
С тобой, чтоб были неразлучны,
А птицу счастья и любовь
Надежно мы к тебе приручим



*Маці,бацька, брат, дочкі і жонка*

